**№ 19 (3760)**

7 сакавіка 2013 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Са святам, з каханнем, з вясной!

***Паэты, палітыкі, мастакі і дыпламаты віншуюць з 8 Сакавіка не толькі сваіх, але і чужых жанчын са старонак "Народнай Волі".***

### Міхаіл ЧЫГІР, былы прэм'ер-міністр Беларусі:

— Першае, што хацелася б пажадаць, — няхай нашы жанчыны будуць такімі ж прыгожымі, як сонечны веснавы дзень!

Няхай шчасце не пакідае іх ніколі, а поспех суправаджае паўсюдна і ва ўсім!

Віншую ўсіх беларускіх жанчын са святам! Ну а сваіх самых блізкіх жанчын я абавязкова павіншую, але ўжо без дапамогі прэсы...

### Уладзіслаў РЭКУНОЎ, парфюмер:

— Віншую чытачак "Народнай Волі" з пачаткам Вясны і днём увагі да жанчыны — 8 Сакавіка!

Урачыста абяцаю працаваць над падтрыманнем вашай прыгажосці, аддавацца ўсім сэрцам у імя вашых пачуццяў і ўсмешак.

Хай неба чуе нашы бясконцыя падзякі вашаму цяплу, любові, шчодрасці і клопату пра нас, сціплых мужчын.

### Дзмітрый БАРАНАЎ, прадзюсар прадзюсарскага цэнтра «Спамаш»:

— Віншую ўсіх жанчын з гэтым цудоўным святам! Ва ўсіх нас яно асацыіруецца з прыходам вясны, цеплыні і дабра. Пасля шматлікіх паездак па свеце я хачу сказаць, што нашы жанчыны — самыя лепшыя ў свеце. Яны самыя прыгожыя, абаяльныя, прыцягальныя. Хочацца, каб мы, мужчыны, былі вартыя кахання нашых жанчын, і адпавядаць той высокай планцы, што яны паставілі для сябе па жыцці.

Безумоўна, я хачу павіншаваць усіх сваіх каляжанак. Але ў гэтым годзе мне асабліва хочацца адзначыць Алену Ланскую. Зараз мы разам рыхтуемся да "Еўрабачання". Спадзяюся, што гэты год для Алены і ўсіх жанчын будзе шчаслівым і пазітыўным.

### Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК, паэт:

— Шчыра жадаю незамужнім жанчынам шчасліва выйсці замуж, нарадзіць здаровых дзетак і яшчэ да школы навучыць іх беларускай мове.

А замужнім жанчынам гэтак жа шчыра жадаю, каб у іх сем'ях добрага было шмат, а нядобрага, кепскага — увогуле не было.

Каб гучала ў іх дамах наша цудоўная беларуская мова, наша беларуская паэзія! І вось такі верш дару ўсім жанчынам да 8 Сакавіка:

*Мужчына шукае ў жанчыне — жанчыну.*
*Жанчына шукае ў мужчыне — мужчыну.*
*І так ад калыскі да дамавіны,*
*Ад гліны біблейнай да нашае гліны.*
*Як доля адорыць спрыяльнай хвілінай*
*І пошук удалым завершыцца чынам,*
*Шчасце тады для мужчыны — жанчына*
*І шчасце тады для жанчыны — мужчына.*

### Зміцер ВІШНЁЎ, паэт, пісьменнік, мастак:

— Трэба, каб мы часцей згадвалі нашых красунь, і не толькі 8 Сакавіка. Мне б вельмі хацелася, каб нашы жанчыны заўсёды былі прыгожыя, адчувалі прыгажосць навакольнага свету і ніколі не сумавалі.

Асобна мне б хацелася павіншаваць сваю жонку Вольгу. Я яе вельмі кахаю і спадзяюся, што яна ніколі не расчаруецца ўва мне!

### Андрэй САВІНЫХ, прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў:

— Свята вясны ў нас заўжды асацыіруецца з 8 Сакавіка і жаночай прыгажосцю. У гэты дзень хочацца пажадаць усім жанчынам шчасця і цудоўнага настрою!

Думаю, перад святам не трэба раздзяляць на блізкіх і далёкіх, таму віншую ўсіх!

**Сяргей ШЭЛЕСТ.**



**НА СВИДАНИЕ К МУЖУ**

## Вчера Ирина Халип улетела в Варшаву

*Там она встретится с супругом. Известная журналистка сказала "Народной Воле", что планирует вернуться в Минск 12 марта.*

Напомним, что Ирине Халип разрешили лишь временный выезд из Беларуси. Ей позволено съездить за границу на встречу с мужем — экс-кандидатом в президенты Андреем Санниковым — и в Россию для участия в редакционных мероприятиях "Новой газеты", где она работает. В Беларусь Халип обязана вернуться до 3 апреля. Разрешение на выезд она получила 13 февраля в уголовно-исполнительной инспекции Партизанского РУВД Минска.

*— Мы восемь месяцев с мужем не виделись, чувствую себя почти как перед первым свиданием*, — рассказала Ирина Халип "Народной Воле" по пути в аэропорт. — *А еще у него завтра, 8 марта, день рождения. И поскольку в последние два года по объективным причинам мы ничего не отмечали (последние дни рождения Андрей провел в тюрьме), соответственно, передо мной стояла проблема выбора ему подарка. И сейчас я обнаружила, что разучилась выбирать подарки мужу. Раньше все было легко, по заведенной схеме, а теперь для меня это была мучительнейшая проблема! Придется убеждать его в том, что лучший подарок — это я сама! (Смеется.)*

К супругу **Андрею Санникову** Ирина отправилась одна. Сын Даник приболел и остался дома с бабушкой и дедушкой.

Из Варшавы Ирина Халип вернется в Минск. В Москву она планирует ехать в конце марта.

*— Дело в том, что 1 апреля — 20-летие "Новой газеты"*, — объясняет она. — *И мне как раз недавно звонил мой главный редактор Дмитрий Муратов и настоятельно просил во время краткого пребывания за границей воздержаться от публичных выступлений. Чтобы мне потом не закрыли путь в Москву. Я сказала ему: "Я же к мужу еду, у меня частная поездка!" На что Муратов заметил: мол, знаю я вас, девки,— за границей тебя найдет Наташа Радина, скажет: "Ура, мы снова вместе!" и поскачете по кочкам! (Хохочет.)*

*А если серьезно, если учесть, сколько всего произошло с нашей семьей, то я очень надеюсь, что смогу спокойно повидать мужа...*

**Марина КОКТЫШ.**

**КУЛУАРЫ**

## Асадзі назад!

*Намеснік старшыні ўрада, які на розных нарадах часта мае выгляд чалавека, які вось-вось будзе плакаць, нечакана стаў прычынай грандыёзнага скандалу і нават перадзелу паўнамоцтваў у Савеце міністраў. Не выключана, што далей будуць прыняты і больш сур'ёзныя кадравыя рашэнні.*

Пасля нядаўняга гучнага пасяджэння ўрада з удзелам Аляксандра Лукашэнкі пабачыла свет распараджэнне **Міхаіла Мясніковіча**, згодна з якім першы віцэ-прэм'ер **Уладзімір Сямашка** адхілены ад куратарства над нафтавай галіной і канцэрнам "Белнафтахім". Гэтыя абавязкі Мясніковіч усклаў на самога сябе. Зразумела, што не без ведама кіраўніка дзяржавы, бо нафта гэта для Беларусі сфера стратэгічная.

Што ж стала прычынай?

Нагадаем, што нечакана ў публічную сферу выйшаў канфлікт паміж канцэрнамі "Белнафтахім" і "Белэнерга", працу якіх яшчэ нядаўна курыраваў Уладзімір Сямашка. Нафтавікі абвінавацілі энергетыкаў у неапраўданым завышэнні тарыфаў на электраэнергію і давялі да шырокай грамадскасці, што з-за гэтага зрываюцца планы па мадэрнізацыі шэрагу прадпрыемстваў. У адказ урад прыняў рашэнне аб комплекснай праверцы дзейнасці "Белнафтахіма" і кіраўніцтва канцэрна.

Канфлікт для Беларусі сапраўды беспрэцэдэнтны. Прадстаўнікі самых уплывовых сектараў беларускай эканомікі, дзейнасць якіх сапраўды лёсавызначальная для краіны, пайшлі сцяной адзін на аднаго. Лёс гэтага супрацьстаяння мог вызначыць толькі адзін чалавек, стаўшы на адзін з канфліктуючых бакоў. І ён гэта зрабіў.

"*У сваёй працы вы зыходзіце з асабістых сімпатый, гэта ваш стыль*, — абрубіў Сямашку Аляксандр Лукашэнка. — *Не лічыцеся з меркаваннем сваіх калег, праяўляеце адкрытую грубасць, часам нястрыманасць. Я вас папрасіў бы спыніць канфлікты з тымі людзьмі, якія прызначаны прэзідэнтам. Прэзідэнт іх прызначыў, і толькі прэзідэнт мае права іх вызваліць ад займаемай пасады. І калі ў вас ёсць прэтэнзіі, у прэм'ер-міністра, у цэлым у членаў урада да тых ці іншых падначаленых асоб, вы не канфліктуйце, вы ўносьце прапановы... Дайшлі да таго, што стварылі нейкую камісію для высвятлення адносін з Жыліным (старшыня канцэрна "Белнафтахім". — **Рэд.**), або яшчэ з кімсьці. А я вам павінен сказаць, гэтую камісію варта было б стварыць па Аляксандру Уладзіміравічу Азярцу (міністр энергетыкі. — **Рэд.**), недахопы якога вы ўпарта не бачыце, хоць іх у яго працы процьма. Адзін з іх — нізкая якасць прапрацоўкі пытанняў інвеставання... З-за выбару няўдалага пастаўшчыка энергетычнага абсталявання фактычна сарвана рэалізацыя праекта мадэрнізацыі Бярозаўскай ГРЭС. Запланаваная на 2010 год пастаўка паравой турбіны і турбагенератара да гэтага часу не завершана ў поўным аб'ёме. Насуперак таму, што вы мне напісалі, нібы да новага года гэтая праблема будзе вырашана... Вось тут, Уладзімір Ільіч, вашы дыктатарскія замашкі былі б карысныя для таго, каб навесці парадак*".

Такім чынам, Уладзімір Сямашка атрымаў каманду "Асадзі назад!".

63-гадовы Сямашка ўжо дзесяць гадоў займае адзін з кіруючых пастоў у беларускім урадзе, курыруючы самыя прыбытковыя напрамкі беларускага бізнесу. Ураджэнец горада Калінкавічы Гомельскай вобласці, ён у свой час з адзнакай скончыў Беларускі політэхнічны інстытут па спецыяльнасці "інжынер-механік". Прыйшоў у Саўмін у камандзе **Сяргея Сідорскага**. Да гэтага пяць гадоў узначальваў тэлевізійны завод "Гарызонт". Зараз эксперты прагназуюць, што кар'ера Сямашкі блізкая да фінішу, бо занадта шмат стала напрамкаў, дзе Уладзімір Ільіч дэманструе адны правалы. Гэта і сарваныя праекты па мадэрнізацыі прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі, і "Камволь", і пастаянныя праблемы у перамовах з Расіяй па нафце, а цяпер вось і да міжведамаснага канфлікту дайшло...

**Ірына МАЛЬЦАВА.**



**ЦИТАТНИК**

## *Игорь РАЧКОВСКИЙ:* *«Незаменимых людей нет. Даже Папа Римский ушел в отставку»*

Так первый вице-президент Национального Олимпийского комитета Беларуси Игорь Рачковский высказался о руководителях. Не страны, а Федерации хоккея.

"*На их месте я бы подал в отставку*, — цитирует Рачковского interfax.by. — *Руководство Федерации хоккея должно в полном составе уйти в отставку. Незаменимых людей нет. Даже Папа Римский ушел в отставку*".

По его мнению, после *"тех скандалов, интриг, договорных выступлений руководство Федерации в полном составе должно встать, сказать "спасибо" и уйти". "Шоу-бизнес на фоне Федерации хоккея отдыхает".*

**КАЛЬКУЛЯТАР**

## Мінчане аддаюць на прадукты больш за 42 працэнты даходаў

*У мінулым годзе сталічныя сем'і на куплю прадуктаў і харчаванне па-за домам штомесяц трацілі ў сярэднім больш за 2 мільёны беларускіх рублёў, што складае 42,4% усяго спажывецкага расходу.*

Аб гэтым паведамляе Галоўнае статыстычнае ўпраўленне Мінска.У 2011 годзе на гэтыя мэты прыходзілася 41,1% расходаў. З агульнага аб'ёму расходаў хатніх гаспадарак на куплю прадуктаў харчавання на мяса і мясапрадукты ў 2012 годзе прыпадала 33,9% (у 2011 годзе — 31,8%), малако і малочныя прадукты — 18,5% (17,7%), гародніна і бахчавыя — 5,5% (6%), хлеб і хлебапрадукты — 11,8% (12,6%), рыбу і рыбапрадукты — 5,3% (4,9%), цукар і кандытарскія вырабы — 5,5 % (5,6%), садавіну і ягады — 7,9% (8,5%), яйкі — 1,9% (2%), алей, маргарын і іншыя тлушчы — 1,5% (2%) , бульбу — 0,7% (1,2%).

***А ці шмат грошай на прадукты аддаяце вы, шаноўныя чытачы "Народнай Волі"? Ці заўсёды набываеце тое, што хочацца, альбо ў нечым адмаўляеце сабе? Калі ў апошні раз куплялі чырвоную ікру? І цэннік на якія прадукты за апошні час вас найбольш уразіў? Ці можаце дазволіць сабе абеды ў кафэ ці рэстаране? Пішыце, самыя цікавыя лісты — абавязкова надрукуем!***

**НУ І НУ!**

## *Як абдурылі настаўнікаў*

*Прыкладам таго, што эканомія дзяржаўных сродкаў можа быць даведзена да абсурду, сталі настаўнікі.*

Беларускі прафсаюз работнікаў адукацыі і навукі прааналізаваў тлумачэнні Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны наконт прафесійнага страхавання, якое дае права на пенсію па выслузе гадоў, і высветлілася...

Калі кіравацца новымі правіламі, то жанчыны-настаўніцы змогуць пайсці на "датэрміновую" пенсію не раней чым у... 58 гадоў. Ды і то пры ўмове, што яны будуць бяздзетнымі і не скарыстаюцца правам на дэкрэтны адпачынак па доглядзе за дзіцем да трох гадоў. У процілеглым выпадку "датэрміновая" пенсія будзе дасягнута аж... у 61 год.

Мужчынам-настаўнікам новыя правілы даравалі такую ж "радасць". Правам на "датэрміновы" выхад на пенсію яны змогуць скарыстацца толькі ... у 68 гадоў, даўно дасягнуўшы права на пенсію па ўзросце.

Такія разлікі агучыў старшыня галіновага прафсаюза **Аляксандр Бойка** на калегіі Міністэрства адукацыі.

Во паклапаціліся, дык паклапаціліся!

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

**SOS!**

## *Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:* «Ёсць пагроза, што краіну проста распілуюць»

*15 сакавіка ў Мінску збяруцца дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання. З якой нагоды?*

— 15 сакавіка — Дзень Канстытуцыі, — *распавядае "Народнай Волі" старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання* ***Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА***. — І менавіта ў гэты дзень у Мінску збяруцца былыя дэпутаты Вярхоўнага Савета, каб падняць пытанні ўласнасці і прыватызацыі ў Беларусі. Бо ёсць пагроза, што краіну, як кажуць, проста раздзярбаняць і распілуюць. Беларусь можа атруціцца пытаннем уласнасці, як гэта адбывалася ў Расіі. Сёння ў нас няма структур улады з дастатковай легітымнасцю, а таму праводзіць такія небяспечныя працэсы з мільярднымі сумамі ў доларавым эквіваленце ўлада не павінна. Пілаваць уласнасць у цішыні — таксама непрымальна. І нехта павінен пра гэта сказаць — моцна і галосна. Я лічу, што гэта трэба зрабіць менавіта дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання, бо ў іх ёсць адна адметная асаблівасць — яны легітымныя. І захавалі гэту легітымнасць да гэтага часу.

*Па словах суразмоўцы, галоўная задача сустрэчы — "выказаць сваё стаўленне да пагрозы страты эканамічнага суверэнітэту Беларусі".*

— Мы павінны заявіць: усё, што зараз будзе адбывацца з уласнасцю, не мае юрыдычных наступстваў, — *дадае Анатоль Лябедзька*. — Новы дэмакратычны ўрад і новы парламент будуць мець усе падставы, каб перагледзець сённяшнія здзелкі і ануляваць іх. Пра гэта павінны ведаць і ўлада, і грамадзяне Беларусі, і патэнцыяльныя інвестары. Сустрэча можа стаць першым крокам у правядзенні нашай кампаніі. Да заявы могуць далучацца ўсе знакавыя фігуры ў краіне, а пасля — і любы грамадзянін Беларусі.

**— Чыя была ініцыятыва правесці такую сустрэчу?**

— У рабочую групу па падрыхтоўцы мерапрыемства ўваходжу я, лідар партыі "Справядлівы свет" Сяргей Калякін і былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі спадар Мечыслаў Грыб. Думаю, на наша запрашэнне могуць адклікнуцца ад 15 да 30 дэпутатаў. Карыстаючыся момантам, я запрашаю на сустрэчу ўсіх калег, якія ў свой час не пайшлі за "хлеб з маслам" у Палату прадстаўнікоў, а засталіся на баку Канстытуцыі. Вы можаце звязацца са мной, і я больш падрабязна распавяду аб мерапрыемстве.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**ЛІКБЕЗ**

*Напрыканцы лютага ў офіс РГА “Беларускі Хельсінкскі камітэт” прыйшлі супрацоўнікі Міністэрства па падатках і зборах. Яны ўручылі кіраўніку арганізацыі Алегу Гулаку пастанову аб арышце маёмасці. Праўда, з офіса БХК падаткавікі сышлі з пустымі рукамі — апісваць і адбіраць было няма чаго.*

*Дык ці варта хваляваацца, атрымаўшы запрашэнне зайсці да падатковага інспектара?*

*Ці варта давяраць прадстаўніку падатковай інспекцыі як самому сабе?*

*І самае галоўнае — у падатковую ісці аднаму або адразу браць з сабой адваката?*

*Гары ПАГАНЯЙЛА:*

# «Халадзільнік — і той не наш!»




БХК высвятляе адносіны з падатковай інспекцыяй ужо не першы год. Як паведамлялася ў СМІ, БХК павінен заплаціць у бюджэт звыш 284 мільёна рублёў падаткаў і штрафных санкцый па выкарыстаных у 2002 — 2003 гадах грантах Еўракамісіі, якія, згодна з міжнародным дагаворам Рэспублікі Беларусь, прадстаўляліся ў безнаяўным рэжыме. БХК абскардзіў гэтае рашэнне, і суды ўсіх інстанцый пастанавілі, што праваабаронцы нічога не павінны пакрываць у бюджэт. Аднак напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2006 года рашэнні гаспадарчых судоў былі перагледжаны Прэзідыумам Вышэйшага Гаспадарчага суда...

Чаму гэтая гісторыя так доўга цягнецца?

“*Таму што мы ўсё ж такі пісьменныя юрысты,* — тлумачыць праваабаронца і сябра БХК Гары Паганяйла. — *Дзяржава нам не спяшаецца спісаць даўгі, а мы не спяшаемся іх пагашаць. Мы спынілі ўсялякія грашовыя аперацыі на сваіх рахунках — іх проста няма. І ў гэтым вінавата дзяржава. У нас няма ні грантаў, якія можна было б правесці па рахунках, мы не вядзём ніякай гаспадарчай дзейнасці, якая была б адлюстравана на банкаўскіх або разліковых рахунках. Мы не набываем маёмасць, на якую можна было б накласці спагнанне. Уся мэбля, якая знаходзіцца ў нас на офісе, — арандаваная ў АБСЕ. У нас заключаны дагаворы з членамі БХК аб тым, што ў офісе яны працуюць на сваіх камп’ютарах — на іх таксама нельга звярнуць спагнанне. Вось у нас у офісе стаіць халадзільнік, але і яго нельга забраць падаткавікам, бо ён належыць аднаму з нашых хлопцаў!*”

Ці варта пытацца парады ў падатковага інспектара, калі не ведаеш, як правільна паступіць? Не параіць ці дрэннага?

“*Як правіла, падаткавікі самі імкнуцца не тлумачыць, як можна пазбегнуць выплаты падаткаў,* — гаворыць Гары Пятровіч. — *Яны якраз зацікаўлены ў тым, каб усе даўгі былі пагашаны. Таму што гэта паказчык ўзроўню і эфектыўнасці іх працы, ад гэтага залежаць іх прэміяльныя, яны атрымліваюць за гэта званні і ордэны. Таму яны будуць шукаць вашу маёмасць або грашовыя сродкі, на якія можна звярнуць спагнанне.* ***Таму мая парада — з падаткавікамі трэба трымаць вуха востра”.***

*Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:*

# «Даць грошай апазіцыянеру ў доўг сёння можа не кожны...»

Старшыня Аб’яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька лічыць, што калі б ён не быў палітыкам, то яго наўрад ці б правяралі ў падатковай уздоўж і ўпоперак. А так — кожны рубель пад кантролем!

“*Мяне праверылі адраз за 17 папярэдніх гадоў,* — распавядае сайту www.svabodaby.net Анатоль Уладзіміравіч аб сваім нядаўнім візіце ў падатковую. — *Правяралі ўсё: пералёты, тэлефонныя выдаткі, выдаткі на камуналку, усю маёмасць і транспартныя сродкі, якія на мяне зарэгістраваны. Супрацоўнікі падатковай зрабілі вялікую працу па кожным годзе*”.

Калі выходзіць так, што за нейкі канкрэтны год расход перавышае даход, то просяць прадставіць тлумачальную ці фінансавыя дакументы, якія пацвярджаюць паходжанне грошай.

“*І даводзілася даваць тлумачэнні, шукаць дакументы,* — пацвярджае Лябедзька. — *У канчатковым выніку праз гэта прайшоў не толькі я, але і ўсе члены маёй сям’і. Мы атрымалі нейкія невялікія, мінімальныя штрафы. І цяпер я чысты перад дзяржавай і ўсімі сілавымі і праваахоўнымі структурамі*”.

Не так даўно Лукашэнка ў чарговы раз перасцярог бізнесменаў ад фінансавання апазіцыі. Анатоль Лябедзька ў сваю чаргу дзякуе тым, хто выручыў яго грашыма.

“*У мяне былі сітуацыі, калі патрабавалася фінансавая дапамога,* — кажа Лябедзька. — *Калі я прадаў аўтамабіль і купіў іншы, мне прыйшлося займаць некаторыя сумы грошай, — я ўсё гэта рабіў афіцыйна. І людзі давалі мне пісьмовае пацвярджэнне аб тым, што далі мне ў пазыку. Потым іх таксама правяралі — выклікалі ў падатковую, дзе яны павінны былі пацвердзіць гэты факт і падаць даведкі аб сваім даходзе. Таму я чыста па-чалавечы ўдзячны гэтым людзям. Але я стараўся з імі быць максімальна сумленным і адразу папярэджваў, што можа ўзнікнуць такая сітуацыя. На шчасце, мне не адмовілі ў дапамозе і падтрымцы. Таму што даць грошай апазіцыянеру ў доўг сёння можа далёка не кожны...*”

Якія парады можа даць Лябедзька тым, каго запрасілі ў падатковую? Як сябе паводзіць?

“*У падатковых працуюць нармальныя людзі, — гаворыць ён. — І там не глядзяць на цябе як на ворага. Людзі проста выконваюць сваю руцінную працу.* ***Таму скажу так: калі вы не абрабавалі банк, не ўкралі нешта ў суседа і нікога не згвалтавалі, то вам няма чаго баяцца****.*

*Вядома, непрыемна, калі табе ўвесь час дыхаюць у патыліцу. Калі мяне правяралі, заадно правяралі і маіх бацькоў, для якіх гэта, безумоўна, быў пэўны стрэс.* ***Таму трэба падрыхтаваць родных і блізкіх, каб яны былі гатовыя да гэтага. І калі вы з кімсьці ўступаеце ў фінансавыя адносіны, то трэба быць перад імі абсалютна сумленнымі, папярэджваць, што змогуць запрасіць у падатковую, каб потым не аказалася, што вы хоць ускосна, але падставілі людзей”.***

*Алег ВОЛЧАК:*

# «Завяду гросбух!»

Праваабаронца Алег Волчак у гэтыя дні якраз чакае канчатковых вынікаў праверкі з падатковай. Яго правяраюць не за адзін, а адразу за 10 гадоў. Былы следчы гаворыць, што яму няма чаго хаваць.

“*Катэджаў дарагіх у мяне няма, прадметаў мастацтва — таксама*”, — распавядае Алег.

Дарэчы, Алег Воўчак толькі нядаўна даведаўся, што падатковыя органы, аказваецца, працуюць не толькі па замове спецслужб. Яны і самі могуць ініцыяваць праверку ў дачыненні да любога грамадзяніна краіны.

“*І калі нехта думае, што падатковая нічога не фіксуе, то глыбока памыляецца,* — папярэджвае Алег. — *Калі сёння вас не выклікалі ў падатковую, то не значыць, што і заўтра не паклічуць.* ***Таму калі робіце на сваё імя дарагія пакупкі ці проста вашы выдаткі перавышаюць даходы, ведайце, што гэтая інфармацыя ёсць і ў падатковых інспектараў.*** *І тыя, хто будуе катэджы, рана ці позна павінны будуць сказаць, адкуль узялі грошы на будаўніцтва. І высокая пасада, я думаю, не ўратуе.*

*Я паказаў усе свае даходы, у тым ліку і ад ўдзелу ў здымках у кіно. Распавёў, што ездзіў у Германію, прыганяў адтуль машыны на продаж. Але падатак з гэтага даходу мне плаціць не трэба, паколькі я ў год прадаваў па адной машыне. У бліжэйшы час, я так разумею, мне павінны прадставіць матэрыялы праверкі і будзе ясна, што ўжо да чаго*”.

Парады для тых, хто ідзе ў падатковую ўпершыню, у Алега Волчака простыя: ***“Захоўвайце чэкі, калі здзяйсняеце буйныя пакупкі. Калі змяняеце працу, то вазьміце ў свайго працадаўцы даведку аб даходах — на ўсялякі выпадак. Таму што калі запросяць у падатковую, гэтая даведка ўсё роўна спатрэбіцца. Калі вам дарылі грошы, то не лянуйцеся і зафіксуйце ўсе сумы, і нават курс долара на той дзень, калі атрымалі грошы. Я наогул для сябе зрабіў выснову, што трэба заводзіць гросбух — спецыяльны сшытак, у якой будуць фіксавацца выдаткі і прыбыткі. Дакладна не перашкодзіць!”***

**ЭКАНОМІКА**

# Не разлічвайце...

*Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця не плануе аказваць прамую фінансавую падтрымку беларускай дзяржаве і абмяжуецца падтрымкай інфраструктурных муніцыпальных праектаў.*

Пра гэта гаворыцца ў апублікаваным на сайце ЕБРР праекце стратэгіі банка ў Беларусі на 2013—2016 гады, якая, як чакаецца, будзе зацверджана 12 сакавіка.

“*Банк будзе прымаць усе меры да таго, каб выключыць аказанне якогасьці фінансавага ці тэхнічнага садзеяння цэнтральным уладам або цэнтральнай дзяржаве Беларусі. Гэта прадугледжвае выключэнне з разгляду любых праектаў крэдытавання буйных аб’ектаў дзяржаўнай інфраструктуры, у тым ліку транспартнай і энергетычнай, а таксама прамога ўдзелу ў прыватызацыі дзяржаўных актываў праз набыццё акцый, што знаходзяцца ва ўласнасці дзяржавы ці дзяржаўных арганізацый*”, — цытуе БелаПАН праект дакумента.

ЕБРР “*па-ранейшаму сур’ёзна занепакоены нераўнамерным прасоўваннем Беларусі па шляху да прымянення прынцыпаў шматпартыйнай дэмакратыі і плюралізму на працягу перыяду дзеяння папярэдняй стратэгіі*”.

Па ацэнках ЕБРР, цэнтралізаванае дзяржаўнае кіраванне беларускай эканомікай па-ранейшаму характарызуецца прымяненнем абмежаванняў памераў заработнай платы, кантролю над цэнамі і дырэктыўнага крэдытавання.

“*Працягваючы палітыку канструктыўнага ўзаемадзеяння па прасоўванні рэформ, банк будзе прытрымлівацца адаптыўнага падыходу да сваёй дзейнасці ў Беларусі і абмяжоўваць супрацоўніцтва з дзяржаўнымі прадпрыемствамі крэдытнымі лініямі на фінансаванне знешнегандлёвых аперацый і павышэнне энергаэфектыўнасці*”, — паведамляецца ў праекце стратэгіі.

У перыяд дзеяння чарговай стратэгіі ЕБРР мае намер прымяняць свой стратэгічны падыход у тых сферах, дзе ён можа ў максімальнай ступені спрыяць развіццю прыватнага сектара і прыносіць карысць народу Беларусі. ЕБРР будзе па-ранейшаму надаваць асноўную ўвагу садзеянню ў развіцці прыватнага сектара ва ўсіх сектарах эканомікі, як наўпрост, так і ўскосна, з асаблівым упорам на апрацоўчую прамысловасць і АПК.

**РЭГІЁНЫ**

## *У Віцебску пачалося будаўніцтва першага арэнднага дома*

Дзесяціпавярховы 120-кватэрны жылы дом узводзіцца ў новым мікрараёне “Білева-3”. Аб’ект павінны здаць даволі хутка — у снежні 2013 года. Прэтэндаваць на арэндныя кватэры змогуць тыя, хто стаіць на чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў. У Віцебску сваёй кватэры зараз чакаюць каля 32 тысяч чалавек.

Арандаваць кватэру ў дзяржавы куды танней, чым у прыватніка. Так, арэндная двухпакаёўка ў сталіцы абыдзецца прыкладна ў 140 долараў. А кошты ў прыватнікаў на такую ж жылплошчу толькі пачынаюцца ад трох-чатырох соцень долараў.

## *У Гомелі абяруць лепшую дзяўчыну-кіроўцу*

У абласным цэнтры шукаюць аўтамабілістак узростам да 35 гадоў, каб выбраць “Аўтасеньярыту—2013”. Конкурс пройдзе 11 сакавіка і будзе складацца з трох этапаў. Першы этап — конкурс візітовак. Прычым прэзентаваць трэба будзе не толькі сябе, а яшчэ і свайго жалезнага каня.

Падчас другога этапа канкурсантак чакае экзамен на веданне правілаў дарожнага руху. На трэцім этапе трэба будзе паказаць, наколькі ліха дзяўчаты водзяць аўто. У адзін конкурс збяруць усе самыя “страшныя” элементы: дыяганальная паркоўка, разварот на ўчастку абмежаваных памераў, заезд заднім ходам у бокс і пераадоленне эстакады.

## *Дагрукацца да ўлад*

13 сакавіка жыхары Віцебска змогуць задаць самыя вострыя пытанні кіраўніцтву Віцебска.

У сераду, 13 сакавіка, з 11.00 да 13.00 адбудзецца “Прамая лінія” з намеснікам кіраўніка адміністрацыі Першамайскага раёна Віцебска Міхаілам Міхайлавічам Атаевым.Жыхары раёна могуць задаць свае пытанні і выказаць пажаданні па пытаннях работы жыллёва-камунальнай гаспадаркі раёна. Тэлефанаваць трэба на гарадскі віцебскі нумар 34-28-72.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

**ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ**

## *1000 беларусаў папрасілі іх не пускаць у казіно*

Менавіта столькі жыхароў Беларусі за месяц абмежавалі сябе ў наведванні ігральных устаноў на тэрмін ад 6 месяцаў да 3 гадоў. Людзі, якія намагаюцца пераадолець псіхалагічную залежнасць ад азартных гульняў, пішуць адпаведную заяву, якую потым перадаюць у Міністэрства па падатках і зборах, якое інфармуе пра згаданых асоб усіх арганізатараў азартных гульняў у краіне. Ад гэтага часу гэтых людзей туды не прапусцяць, паведамляе belta.by.

**ДЛЯ ДАВЕДКІ.** ***Сёння ў Беларусі дзейнічаюць 34 казіно, 18 з якіх размешчаны ў сталіцы, 279 залаў гульнявых аўтаматаў і 148 букмекерскіх кантор.***

**НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА**

# О торжестве законности в Беларуси: *мифы и реальность*



*22 января 2013 г. Конституционный суд (далее — КС) принял очередное послание “О состоянии конституционной законности в Республике Беларусь в 2012 году”. Как всегда, оно получилось объемным и содержательным (20 страниц текста в интернет-версии).*

*О чем пишет КС в своем Послании? Все о том же: о принятых решениях и сформулированных на их основе “правовых позициях”, об обращениях граждан и организаций и решениях, вынесенных по некоторым из них, о бездействии “уполномоченных субъектов”, которые должны вносить в КС предложения о неконституционности нормативных актов, об исполнении решений КС, о том, что надо сделать для улучшения конституционной законности в стране.*

*Какие моменты заслуживают внимания в Послании? О чем промолчал КС? И вообще, нужен ли нам такой суд? Об этом и пойдет речь в статье.*

## За кипучей работой

В первых строках Послания судьи Конституционного суда отмечают, что основным направлением их усилий является предварительный контроль конституционности законов, принятых палатами парламента, но еще не подписанных главой государства. Работая в этом направлении, КС проверил 113 законов, принятых белорусским парламентом в 2012 году.

И какой результат? Удивительно, что титаническая работа судей КС по проверке конституционности законов дала нулевой результат — никаких нарушений (!).

И такая ситуация имеет место с конца июня 2008 года, когда был принят декрет №14 “О некоторых мерах по совершенствованию деятельности Конституционного суда Республики Беларусь”. Именно на основании президентского декрета, а не на основании конституционных норм КС проверяет законы, принятые палатами парламента.

Данная практика вызывает ряд вопросов. Первый: для чего понадобилось осуществлять предварительный конституционный контроль законопроектов? Второй: почему КС предпочел декрет Конституции? Третий: неужели все законы, проходящие через белорусский парламент, такие совершенные?

Отвечая на первый вопрос, следует отметить, что подобная практика существует в некоторых странах (Франции, Польше). Учитывая, что законы являются юридическими актами, регулирующими наиболее важные вопросы государственной жизни и принимаемыми на длительную перспективу, имеется резон проверять их на предмет соответствия Конституции до вступления в силу. Для белорусского Конституционного суда это еще и постоянный участок работы, поскольку до этого он фактически бездействовал.

Что касается ответа на второй вопрос, то он расставляет все точки над “і” в действующей иерархии правовых актов Республики Беларусь. Конституционные судьи безропотно приняли к исполнению президентский декрет, невзирая на то, что он издан с превышением полномочий и противоречит Конституции (в частности, стст.1, 6, 7, 83, 84, 101, 116, 137, 140). Это означает, что вся работа КС по предварительному конституционному контролю законов является юридически ничтожной.

Переходя к ответу на третий вопрос, можно усомниться в конституционной безупречности некоторых законов, принятых в 2012 году. Взять, к примеру, Закон Республики Беларусь от 26 мая 2012 г. №376-З “О внесении изменений и дополнений в некоторые законы Республики Беларусь по вопросам профилактики безнадзорности и правонарушений несовершеннолетних”, в соответствии с которым введен запрет относительно нахождения несовершеннолетних вне жилища в ночное время без сопровождения взрослых.

КС упоминает про этот закон и даже соглашается с тем, что его нормы устанавливают ограничение права граждан на личную жизнь (ст.25 Конституции) и права на свободу передвижения (ст.30 Конституции). Но далее КС утверждает, что такие меры *“социально оправданы и отвечают положениям Конституции, согласно которым ограничение прав и свобод личности допускается... в интересах общественного порядка”.*

То есть нарушение Конституции имеется, но оно “социально оправдано”... даже без введения комендантского часа.

Еще один примерчик, когда путем внесения поправок в Закон “О государственной службе в Республике Беларусь” отдельным государственным служащим, занимающим должности, включенные в кадровый реестр главы государства и достигшим 65 лет, разрешается продолжать работу и после достижения предельного возраста пребывания на государственной службе. Но ведь это нарушение статьи 41 вышеназванного Закона, которая не предусматривает исключений из правил (65 лет и ни днем больше!).

Однако это нарушение не смущает конституционных судей, которые полагают, что *“возможность продления срока пребывания на государственной службе для отдельных государственных служащих должна быть обусловлена их профессиональными и деловыми качествами”.*

Как видим, на самом деле не все так гладко, как сказано в Послании. Если проявить принципиальность при оценке принимаемых законов, то в отношении ряда из них могут возникнуть сомнения в конституционности. Правда, такую принципиальность Конституционный суд, как и никто из судей, не желает проявлять. Ведь тогда придется вступать в конфликт с парламентом, а дальше — с самим главой государства, с чьей подписью поступает в парламент большинство законопроектов.

Отсюда и позиция КС: ничего не замечать и вместо критики сомнительных законов придумывать так называемые правовые позиции, которые, по мнению судей, направлены *“на уточнение конституционно-правового смысла отдельных норм, выработку действенного законодательного механизма реализации и защиты прав и свобод человека и гражданина”.*

## «Уполномоченные субъекты» опять в КС не обращаются

В очередной раз Конституционный суд констатирует, что уполномоченные субъекты (президент, правительство, палаты парламента, Верховный суд, Высший Хозяйственный суд) с предложениями о проверке конституционности нормативных актов не обращались. И это повторяется на протяжении более пяти лет.

Почему? Как это расценить? В Послании нет ответа на эти неприятные для суда и “уполномоченных субъектов” вопросы.

Мне представляется, что государственные органы и уполномоченные должностные лица вводят общество в заблуждение относительно законности в Республике Беларусь. Свом молчанием, криводушием и бездеятельностью они делают вид, что в стране нет и не может быть неконституционных актов.

Но, господа-начальники, снимите розовые очки. Таких актов десятки, сотни, тысячи! О них вам пишут простые граждане. К примеру, за 2012 год только в КС поступило 772 обращения от граждан и организаций. Однако абсолютное большинство этих обращений остается без рассмотрения. И только на основании некоторых из них КС выносит решения, чтобы показать “трогательную заботу” о правах и свободах граждан.

Примером может быть решение КС от 14 ноября 2012 г., в котором подтверждено право выпускников вузов на освобождение от возмещения средств, затраченных государством на их подготовку, в случае их поступления на военную службу по контракту.

В этом решении КС как бы решает дилемму: что для государства важнее — служба в армии или подневольная отработка по распределению *(последняя, между прочим, противоречит свободному характеру труда. —* ***Авт.****)?* Предпочтение КС отдано выполнению священного долга гражданина Республики Беларусь по защите своей страны.

Можно привести еще несколько примеров такого рода, когда КС проявляет предметную заботу об отдельных категориях граждан, в том числе отбывающих уголовное наказание (например, если они имеют тяжелое заболевание, которое препятствует дальнейшему отбыванию наказания).

Но вот почему Конституционный суд до сих пор не решит вопрос о наделении граждан правом на непосредственное обращение в КС, чтобы их жалобы подлежали обязательному рассмотрению, как и предложения уполномоченных субъектов? Тогда бы у КС появились основания для принятия решений о конституционности и законов, и актов главы государства, и постановлений правительства. Во всяком случае без “горячей” работы КС не остался бы, как и без повышенного общественного внимания.

А пока граждане вынуждены “бомбить” своими жалобами уполномоченные субъекты, преимущественно палаты парламента, с тем чтобы те обратились в КС. Как отмечается в послании, в 2012 году таких обращений было 73 и почти во всех из них ставились вопросы о проверке конституционности различных нормативных актов или указывалось на необоснованность ограничений конституционных прав и свобод. Ни одно из 73 обращений не нашло “отклика” у полномочных субъектов (!).

Для чего тогда эти субъекты наделяются соответствующими полномочиями? Почему они не выполняют своих конституционных обязанностей, а именно: “...в пределах своей компетенции принимать необходимые меры для осуществления и защиты прав и свобод личности” (ч.2 ст.59 Конституции)? Почему они не несут ответственности за бездействие?

И наконец, как стала возможной ситуация, когда главой государства издан явно антиконституционный декрет от 7 декабря 2012 года №9 “О дополнительных мерах по развитию деревообрабатывающей промышленности”, которым по сути введен принудительный труд в целой отрасли промышленности, и ни один из уполномоченных субъектов не посчитал необходимым обратиться в Конституционный суд?

Сложившуюся в правовой сфере Беларуси ситуацию я расцениваю так: государственные органы не выполняют возложенные на них конституционные обязанности, тем самым лишив граждан возможности защищать свои конституционные права и свободы.

## Нужен ли такой суд?

Завершая повествование о состоянии законности в Беларуси, Конституционный суд отмечает, что *“в 2012 году в законотворческом процессе не было допущено существенных нарушений конституционных принципов и норм”.*

То есть делается вид, будто ничего не видит, что на самом деле происходит в стране. Он занят своей “кипучей работой”, углубился в изучение законов, принятых парламентом, и читает обращения граждан и организаций (и, похоже, не верит тому, что в них написано). На основе этой схоластической работы Конституционный суд выносит заключения о конституционности проверенных законов и формулирует непонятные правовые позиции, а иногда выносит решения по обращениям граждан. В конце года, обобщая свою работу, КС пишет оторванное от реальности Послание о состоянии конституционной законности, в соответствии с которым в правовой сфере все обстоит неплохо.

По сути, мы имеем молчащий и беспомощный Конституционный суд, который уклоняется от рассмотрения неконституционных нормативных актов. Нужен ли нам такой суд, который к тому же полностью зависит от главы государства и вынужден следовать проложенной им “генеральной линии”?

Ответ более чем очевиден. Республике Беларусь нужен иной Конституционный суд — самостоятельный, независимый, с широкой компетенцией. Это должен быть суд, который вправе и обязан рассматривать все вопросы, связанные с соблюдением Конституции и законов.

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**доктор юридических наук,**
**профессор,**
**член первого состава**
**Конституционного суда.**

*(Продолжение следует.)*

СРАВНИМ

# *Льготные кредиты на недвижимость в Беларуси в 9 раз дороже нельготных в США*

*Недавно белорусов порадовали существенным снижением ставок по льготным кредитам на приобретение жилья для нуждающихся в улучшении жилищных условий. Они снизились до 16 процентов годовых.*

В некоторых случаях ставка может быть снижена до 12 процентов годовых. На такой кредит может претендовать многодетная семья, имеющая трех и более несовершеннолетних детей, нуждающихся в улучшении жилищных условий. Сумма кредита в этом случае может составлять до 95 процентов от стоимости жилья.




Остальные льготники могут строить жилье с кредитом по ставке 16 процентов годовых, но при условии внесения четверти от стоимости недвижимости в виде первоначального взноса.

Если денег на первый взнос у гражданина нет, то ставка по нему вырастет в 2 (!) раза до сумасшедших 32 процентов годовых.

Почему эта “льготная” ставка является сумашедшей?

Судите сами. На днях одно из крупнейших американских ипотечных агентств Freddie Mac сообщило, что средняя ставка по жилищным кредитам со сроком погашения 30 лет за неделю опустилась с 3,56 процента до 3,51 процента.

Это в 9,1 (!) раза меньше, чем ставка по льготным кредитам для белорусских граждан, у которых нет денег на первоначальный взнос в размере 25 процентов от стоимости недвижимости.

Специалисты сайта банковской информации Select подсчитали, что если белорус и американец возьмут кредит и будут выплачивать его равными платежами ежемесячно на протяжении 20 лет, то американец переплатит 39 процентов от стоимости недвижимости, а белорус — 541 процент.

Другими словами — американец за 20 лет заплатит за 1,39 квартиры и получит одну, а белорус заплатит за 6,41 квартир и получит тоже одну...

**Олег СНОВ.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО СПАЖЫЎЦОЎ

*На пытанні чытачоў “Народнай Волі” адказвае намеснік старшыні грамадскага аб’яднання “Беларускае таварыства абароны спажыўцоў” **Васіль ВАЛАСЮК.***

## Калі вам не пашанцавала з тэлевізарам...

*Набыў тэлевізар. Праз тры месяцы ён стаў дрэнна паказваць. Ці магу я пры звароце ў магазін адмовіцца ад гарантыйнага рамонту і запатрабаваць грошы за тэлевізар?*

**Сяргей ЛУЦЭНКА, г.Маладзечна.**

— Не можаце. Складаную бытавую тэхніку (у вашым выпадку — тэлевізар) абменьваць можна, калі ёсць істотны недахоп, які выяўляецца неаднаразова альбо з’яўляецца ізноў пасля рамонту. Здайце тавар у магазін для рамонту. Калі ёсць даведка з майстэрні, вам абмяняюць тэлевізар.

## Сачыце за тэрмінамі пакупкі тавару!

*Паўгода назад купілі ў магазіне 5 міжпакаёвых дзвярэй. Рамонт у нас на час спыніўся, і мы дзверы пачалі ставіць толькі зараз. У працэсе высветлілася, што распашныя дзверы для залы былі намі куплены не таго памеру, яны знаходзіліся ва ўпакоўцы (яе не здымалі). Усе чэкі захаваліся. Звярнуліся ў магазін, дзе набывалі гэтыя дзверы, з просьбай абмяняць ужо купленыя дзверы на тыя, якія б падыходзілі нам па памеры (з даплатай, калі патрабуецца). У магазіне нам сказалі, што такімі абменамі не займаюцца. Дык ці магу я па законе абмяняць тавар?*

**Сям’я САЛАШ, Мінск.**

— Абмяняць дзверы можна на працягу 14 дзён з моманту пакупкі. Прабачце, але ваш тэрмін прайшоў. Але можаце зрабіць запіс у Кнігу скаргаў і прапаноў з просьбай у карэктнай форме да адміністрацыі пайсці вам насустрач. Магчыма, вашу просьбу і задаволяць.

## На экспертызе пакупнік таксама прысутнічае

*Ці маю я права прысутнічаць падчас экспертызы тавару? Калі так, то на што мне спаслацца, калі адмовяць?*

**Цімафей ЛАПЕХА, Мінскі раён.**

— Пры правядзенні экспертызы прысутнічаюць прадавец і спажывец. Калі па тавары складаецца акт таваразнаўчай экспертызы, прысутнічаюць толькі тыя, хто праводзіць праверку. Калі вы не пагодзіцеся з вынікамі экспертызы, правядзіце комплексную экспертызу.

## Плітку можна абмяняць толькі скрынкай

*Некалькі дзён таму купіў кафельную плітку. Адзначаю, што купляў з разліку па квадратных метрах — набываў плітку паштучна, а не скрынкамі. Пры спробе вярнуць плітку ў магазін ці абмяняць на іншы тавар атрымаў адмову. Мне сказалі так — прымем скрынкамі, а не паштучна. Ці магу я запатрабаваць ад магазіна, каб плітку забралі, а мне вярнулі грошы?*

**Віктар ШАЎЦОЎ, Слонім.**

— Праўда на баку прадаўца. Плітку можна абмяняць толькі ва ўпакоўцы.

## Асцярожна з дзіцячымі цацкамі!

*На рынку купіла дзіцячую цацку. Упакоўку раскрылі толькі праз месяц. Высветлілася, што цацка мае рэзкі, непрыемны пах. Ці можна запатрабаваць у гандляра вярнуць грошы за няякасны тавар? І што я магу зрабіць, калі ён адмовіць?*

**Святлана ЮЖАНІНА, Віцебск.**

— Можаце. Спытайцеся ў прадаўца пра дакументы, якія пацвярджаюць якасць дзіцячых цацак. Калі такіх дакументаў няма, ідзіце да незалежных экспертаў у Беларускае таварыства абароны спажыўцоў.

## Не верыце прадаўцу? Праводзьце экспертызу

*Набыла на рынку джынсы. Насіла іх 17 дзён, пасля чаго вырашыла памыць у пральнай машыне. Пасля гэтага ўбачыла, што на штанах “пайшлі” стрэлкі. Што можна зрабіць у такой сітуацыі?*

**Аліна, Мінск.**

— Здаецца, ваш тавар мае вытворчы дэфект. Калі ласка, звяртайцеся да незалежных экспертаў па тэлефоне: 8 (017) 262-96-08. Дамоўцеся аб сустрэчы і правядзіце экспертызу. Усе вашы выдаткі прадавец абавязаны будзе кампенсаваць.

## Хто кантралюе графік работы аўтобусаў?

*Цікава даведацца, хто кантралюе графік работы маршрутных аўтобусаў? Ці магу я паскардзіцца на тое, што аўтобусы ходзяць не па графіку?*

**Віталь КУЧЫНСКІ, Магілёў.**

— Так, гэта законнае права спажыўца. Звярніцеся да вадзіцеля, удакладніце адрас прадпрыемства, запатрабуйце Кнігу скаргаў і заўваг і напішыце факты парушэння графіка. На працягу 14 дзён вам павінны адказаць, а парушэнні выправіць.

**Падрыхтаваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЛИЧНОЕ

## *Около 2,5 тысячи белорусских мужчин находятся «в декрете»*

*Такие данные приводит Фонд ООН в области народонаселения (ЮНФПА) в Беларуси.*



Согласно Трудовому кодексу Республики Беларусь, отпуск по уходу за ребенком до достижения им возраста трех лет может предоставляться не только женщине, но и работающему отцу или другим родственникам, фактически осуществляющим уход за ребенком, с выплатой ежемесячного государственного пособия. По данным Министерства труда и социальной защиты, 2 тыс. 453 отца по итогам 2011 года получали пособие по уходу за ребенком (данных за 2012 год пока нет).

Психологи выделяют две основные причины ухода мужчин “в декрет”: личные (здоровье, семейные обстоятельства и т.д.) и финансовые.

Семейный психолог **Роман Крючков** считает: “*Если папы поймут, что они не только добытчики, но и такие же участники процесса воспитания, как и мамы, то у них не будет никакого смущения при уходе в отпуск по уходу за ребенком. Поэтому мы должны стремиться к тому, чтобы белорусские родители это понимали и делали выбор вне зависимости от внешних факторов, руководствовались лишь потребностями ребенка”.*

Кстати, первой страной, законодательно закрепившей право мужчин на отпуск по уходу за ребенком, была **Норвегия**: отец может взять 6-недельный декретный отпуск и поделить вместе с женой общий декретный отпуск.

**В Японии власти** решили принудительно отправлять в 40-дневный отпуск по уходу за ребенком отцов — работников муниципальных учреждений.

А вот французские и английские папы согласны уйти в отпуск по уходу за ребенком просто из любви к малышу и супруге. По результатам опроса, мужской декретный отпуск одобряют почти 70% французов и более 76% француженок. Сейчас **во Франции** папам разрешено брать отпуск по уходу за ребенком на две недели, но в будущем планируется его увеличить.

Власти Великобритании законодательно закрепили право отца и матери на годовой оплачиваемый декретный отпуск на двоих. Ранее **в Англии** отцам предоставлялся двухнедельный неоплачиваемый отпуск после рождения ребенка. Теперь же папа может провести с малышом целых полгода (другие полгода малышом занимается мама).

*“В экономически развитых странах и обеспеченных семьях ключевым фактором при принятии женщиной решения иметь больше одного ребенка является степень вовлеченности будущего отца в процесс воспитания детей”,* — цитирует belta.by координатора программ Фонда ООН в области народонаселения **Татьяну Гапличник**.

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# «Піша Вам Садоўнік...»

***Дзесяць гадоў Аляксандр Сафронавіч Долбік — ветэран Вялікай Айчыннай вайны, колішні настаўнік і палітвязень ГУЛага — вядзе няроўны бой з уладамі... Чаго дамагаецца былы матрос-падводнік, абаронца Севастопаля і Сталінграда (уганараваны двума баявымі ордэнамі і медалём “За абарону Сталінграда”) ад цяперашніх улад? Што патрабуе ён ад пракурораў і суддзяў, якія пакліканы слугаваць закону і стаяць на варце правоў грамадзян?***

...Перад тым як ехаць у Жухавіцкі дом-інтэрнат для састарэлых (там цяпер жыве 92-гадовы ветэран), уважліва перачытаў жыццяпіс роду, уласнаручна ім напісаны: прыгожы каліграфічны почырк прыемна здзівіў, а выдатная беларуская мова — з рэдка ўжыванымі словамі-пярлінкамі — усцешыла да глыбіні душы. Амаль 70 старонак уборыстага тэксту — з мноствам імёнаў, падзей, эпізодаў, фактаў, спасылак на юрыдычныя дакументы. І ўсё ў строга храналагічным парадку, ну проста летапіс...



“Сярмяжная праўда беларусаў, — роздумна канстатуе дзед Аляксандр, — зацягваецца ілам бяспамяцтва, а цяперашняя рэчаіснасць і ўвогуле спавіта буразялёнай цінай. Між тым у балоце — ведамая справа — белыя гарлачыкі не распускаюцца, гніюць на корані. Калі які і высунецца са смярдзючай твані, дык ураз галаву адкруцяць... У маім родзе, пачынаючы ад прадзеда, — кажа стары, — было прынята жыць сваім розумам, працаю мазольных рук. Ну і, канечне, ніколі не здраджваць сваёй зямельцы — Бацькаўшчыне... Мусіць, таму і нацярпеліся ад рознай пагані, што мужыцкай праўдай упоперак усім сталі...”

## За паўстанца-каліноўца — у Сібір...

Прадзед Аляксандра Сафронавіча Іван Доўбік першым “паспытаў” Сібіры... А было так. Сям’я прадзеда Івана да адмены прыгоннага права належала мясцоваму гаспадару фальварка (у ваколіцах вёсак Еўлічы і Чапліцы на Случчыне) пану Вайніловічу. Доўбікі мелі чатыры дзесяціны ворыўнай зямлі, за карыстанне якой і адбывалі паншчыну. А як прыгонніцтва было адменена, то зямля тая перайшла Іванавай сям’і. Але не задарма — прыйшлося плаціць выкуп дзяржаве, улезшы ў доўгатэрміновую пазыку. Ды нічога — жылі, працавалі, нараджалі і гадавалі шасцярых дзяцей.

Прадзед Іван карыстаўся павагай у аднавяскоўцаў, нездарма яго абіралі старастам вёскі два тэрміны запар — агулам шэсць гадоў. І ўсё выглядала някепска, аж пакуль расійцы не пачалі прыціскаць мясцовае панства ды больш-менш заможных сялян, якія толькі-толькі выкараскаліся з галоты. Канечне, расла незадаволенасць, тут і там успыхвалі бунты...А потым надарылася і паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Задушылі... Каліноўскага на шыбеніцу, а ягоных паплечнікаў — у Сібір. Якія не трапілі ў астрог, то пахаваліся на хутарах ці сталі прабірацца на эміграцыю.

Адзін з каліноўцаў знайшоў прытулак у доме пана Вайніловіча — той сімпатызаваў паўстанцам. Аблавы царскіх служкаў спачатку нічога не давалі, бо падчас іх небарака хаваўся на Іванавым двары — такая была дамоўленасць з памешчыкам Вайніловічам. Але аднойчы нехта данёс, і абодвух — каліноўца ды Івана — схапілі ды закавалі ў кайданы. Прадзед быў асуджаны на пасяленне ў Сібіры. І гэта была сапраўдная трагедыя для сям’і, асабліва для жонкі Марыны, на руках у якой засталіся дзеці і гаспадарка. Набожная і аддадзеная Івану, яна малілася за яго ва ўсіх цэркоўках, потым дайшла да Кіева-Пячэрскай лаўры ў Кіеве, потым да святой зямлі ў Палесціне... Усё думала, што Бог даруе, а цар змілуецца. Але дарэмна: Іван згінуў на чужыне, так і не даўшы пра сябе вестачку. Нікому невядома — дзе ягоная магіла...

Тым часам дзеці выраслі, заводзілі свае гаспадаркі, сем’і — жыццё працягвалася... Адзін з прадзедавых сыноў — Яўтроп — хоць і батрачыў на іншых, але ажаніўся з дзяўчынай з добрым пасагам. Звалі яе Ганнай. Маладыя жылі хораша, у дастатку, нарадзілі дзяцей. Аднаго з сыночкаў назвалі Сафронам. Было гэта ў 1890 годзе. Яшчэ праз трыццаць адзін год той Сафрон стане бацькам нашага героя — Аляксандра Сафронавіча Доўбіка... Але што прынесла новая, камуна-бальшавіцкая эпоха дзеду Яўтропу, ягонаму сыну Сафрону і ўнуку Аляксандру?..

## Як батракі сталі «кулакамі»...

Дзед Яўтроп з юнацкіх гадоў асвойтаў шорніцкую справу — рабіў ды рамантаваў конскую збрую і панам, і мужыкам. І гэта быў добры прыработак для батрака, у яго ж была да ўсяго і свая карова. Вясковыя жанчыны, як потым напіша ў сваім летапісе ўнук, зайздросцілі Ганне: “ выйшла замуж за батрака, а жыве як пані...”

Паміж тым Яўтроп увесь час марыў пра свой надзел зямлі. І аднойчы-такі займеў уласны фальварак. Разам з Анупрыем Алешкам і Радзівонам Доўбікам купілі маёнтак слуцкага ўрача Машэўскага. Узялі крэдыт у Зямельным банку тэрмінам на 50 гадоў ды і расплаціліся за тыя 37 з паловаю гектараў. Пасля ўжо падзялілі фальфарак на тры гаспадаркі: Яўтропу дасталіся 4 дзесяціны ўрадлівай зямлі, частка лесу, варыўня ды абора. Пераехалі на новае месца ўвосень 1911 года, пачалі абжывацца. А праз два гады ажаніўся і дзедаў сын Сафрон... Здавалася, жыццё пайшло на лад. Але тут здарылася Другая сусветная вайна, і Сафрона забрылі ў войска. Аднаго разу — пад Варшавай — ён трапіў у нямецкі палон. Скончылася ўсё тым, што давялося піцаваць на аднаго нямецкага баўэра пад горадам Крэіс-Марыенбург... “Вярнуўся бацька з палону восенню 1918 года, — распавядае далей ужо сам Аляксандр Сафронавіч. — Вайне канец, але на радзіме на ўсю моц гаспадараць бальшавікі... А ў 1921 годзе нарадзіўся і я. Увогуле ў сям’і было сямёра працаздольных, таму неяк выжывалі, дармо што новая ўлада абклала непасільнымі падаткамі. І не толькі выжывала дзедава з бацькам гаспадарка, але была прызнана лепшай у акрузе, набыла статус “Узорнай”. Да нас нават экскурсіі прыводзілі...”

І было б усё добра, але ў снежні 1927 года НЭП адмянілі і ўзялі курс на будаўніцтва сацыялізму, на ліквідацыю капіталістычных элементаў у народнай гаспадарцы. Карацей кажучы, напрыканцы 1929 года дзед Яўтроп і ягоны сын Сафрон трапілі ў няміласць да новай улады. “Кулакі”, значыцца... Адмова дзеда ўступіць у калгас каштавала сям’і маёмасці і харчоў. А неўзабаве добрыя людзі папярэдзілі, што Доўбікаў збіраюцца выслаць на Поўнач. Трэба было ратавацца. Старыя з унукам Сашкам засталіся дома, а Сафрон з жонкаю і малымі дзецьмі раз’ехаліся ў розныя бакі. Бацька ўцёк праз мяжу ў Клецк — на польскую тэрыторыю, а маці — у суседнюю вёску. Сашка на той момант моцна хварэў, бацькі нават думалі, што памрэ — таму і пакінулі з дзедам Яўтропам. Як прыйшлі камісары кулачыць, дык дзед выйшаў на ганак, трымаючы на руках непрытомнага Сашку: “А што вось мне рабіць з ім?..” Толькі хто яго слухаў?.. Усё, што было ў хаце, хляве і гумне — рэквізіравалі. Старых з хворым унукам пасадзілі на фурманку і павезлі на чыгуначную станцыю. Добра, што радня з суседняй вёскі адбіла малога, угаманілі камісараў пакінуць хлапчука ў спакоі... А старога Яўтропа і бабулю кінулі ў вагон-цялятнік і выправілі ў Архангельскую вобласць. На цэлыя тры гады...

## Вяртанне і... расстрэл

Сваякі Доўбікаў давялі ўладам, што стары Яўтроп асуджаны незаконна, што ніякі ён не вораг. І тыя — рэдкі выпадак — прыслухаліся. Праз тры гады змарнелыя старыя вярнуліся з Котласа дамоў. Але радасць неўзабаве перакруцілася на новае гора: арыштавалі нявестку — маці Сашкі. За ўцёкі ад высылкі яе асудзілі на тры гады праўчай працы ў Казахстане. Тыя тры гады расцягнуліся на ўсе трынаццаць — вярнулася ў Беларусь толькі ў 1946 годзе. Сашка — будучы марак-падводнік, настаўнік і дысідэнт — зноўку асірацеў... Як споўнілася яму сямнаццаць гадкоў, хутарскія папярэдзілі: яго з сястрой чакае арышт... Ну што было рабіць, куды падзецца? Суседзі ды сваякі сабралі грошы і купілі білеты да Караганды — хай едуць бедалагі да сваёй маці. Мо там уратуюцца. І як у ваду глядзелі: неўзабаве — услед уцекачам — з’явіліся раскулачнікі ды схапілі родную цётку, абвінавацілі ў шпіянажы на карысць Польшчы. Далі дзесяць гадоў лагера.

Тым часам брат з сястрою сустрэліся з маці, пачалі жыць у Казахстане. Сашка скончыў горны тэхнікум, пасля яшчэ паступіў у педінстытут і на курсы настаўнікаў... Словам, неяк усё наладзілася.

— А што з бацькам, які далейшы лёс Сафрона? — пытаюся ў дзеда Аляксандра.

— Скончылася для майго бацькі ўсё трагічна, — кажа стары. — З Беларусі да нас у Казахстан прыйшла страшная навіна: пасля заняцця бальшавікамі Заходняй Беларусі бацьку арыштавалі. На той час ён жыў у Клецку, меў невялічкую ўласную крамку... Спачатку Сафрона Яўтропавіча асудзілі на 10 гадоў за нелегальны пераход мяжы, але здалося крывапійцам, што гэтага мала — і тады зрабілі яго “польскім шпіёнам”. Прыгавор — расстрэл... Гэткі ж лёс напаткаў урэшце і дзеда Яўтропа з ягоным братам. Да сённяшняй пары не ведаю, — сумна выдыхае Аляксандр Сафронавіч, — дзе тая бацькава магіла. Курапаты — можа, там... А можа, у якім прылеску пад Слуцкам... Адзін Бог ведае ды яшчэ сталінскія апрычнікі.



## Хто такі Садоўнік?

У 1940 годзе Аляксандра Долбіка прызвалі ў армію — на флот. Спачатку залічылі курсантам вучэбнага атрада падводнікаў імя Кірава ў Ленінградзе. Потым вайна, паскораны выпуск — і вось гідраакусцік Аляксандр Доўбік на падводнай лодцы “Шчука” на Чорным моры. Неўзабаве лодку патапілі ля ўзбярэжжа Балгарыі, хто выжыў — служылі далей на кацерах. І не толькі на моры, не толькі пад Севастопалем... Частку маракоў перакінулі на Волгу, у рачную флатылію. У снежні, падчас абароны Сталінграда, матроса Аляксандра Долбіка моцна кантузіць, раніць... Пасля шпіталю ў Махачкале камісуюць, але вайна для яго на тым не скончылася. Неўзабаве яго зноў прызываюць, але гэтым разам у якасці інструктара-гідраакусціка. Служба скончылася толькі ў 1946 годзе на Балтыцы. Канечне, вярнуўся на радзіму... Але паколькі сын “польскага шпіёна”, то настаўнічаць на Случчыне не далі, паслалі ў Заходнюю Беларусь. Да 1958 года працаваў інспектарам РАНА, потым настаўнікам, завучам і, нарэшце, дырэктарам Радуньскай школы ў Карэліцкім раёне. А ў верасні нашага настаўніка арыштоўваюць...

За што? Звінавацілі ў паклёпе на КПСС, дзяржаўны лад і савецкую рэчаіснасць. Кадэбістаў здзівіў сваім “нахабствам” невядомы, чые лісты на Захад перахоплівалі на пошце. Падпісваўся антысаветчык нейкім Садоўнікам, а лісты адрасаваў тагачаснаму прэзідэнту ЗША Эйзенхаўэру, прэм’еру Індыі Нэру, прэм’ер-міністру Вялікабрытаніі Ітэну. “Зламыснік” скардзіўся заходнім лідарам, пісаў, што СССР ігнаруе Дэкларацыю аб правах чалавека, у краіне квітнее таталітарны рэжым, сялянства загнана ў прыгонніцтва. Садоўнік прасіў паўплываць на Мікіту Хрушчова, каб той паважаў савецкіх працоўных і інтэлігенцыю.

— Як жа вас вылічылі кадэбісты? — пытаюся ў Аляксандра Сафронавіча. — І чаму менавіта выбралі такі псеўданім — Садоўнік?

“А ўсё проста, — пасміхаецца стары — Узяў першыя літары ад імя бацькі, свайго імя і прозвішча. Атрымалася — Сад, ну то Садоўнік... А вылічылі мяне па почырку...

Суд над першым беларускім пасляваенным дысідэнтам быў кароткім. За ліставанне з Нэру ды Ітэнам настаўніку ўляпілі дзесяць гадоў папраўчых лагераў ды пяць гадоў паражэння ў правах. Але самае крыўднае, што той суд адабраў баявыя ўзнагароды — два ордэны Чырвонай зоркі, медаль “За абарону “Сталінграда”, медаль “За абарону Каўказа” і медаль “За Перамогу над Германіяй”. Адбываць пакаранне выправілі ў Мардовію, у сумнавядомы Дублаг. “Да 1953 года жывым адтуль не вяртаўся ніхто, — узгадвае Аляксандр Сафронавіч. — Мне пашэнціла болей, хоць мая “дзясятка” — у параўнанні з астатнімі — максімальны тэрмін заключэння. Але, дзякаваць Богу, выжыў — нават не прасіў скарачэння таго тэрміну.

Рэабілітавалі Аляксандра Доўбіка толькі ў 1992 годзе... Баявыя ўзнагароды не вярнулі і да гэтай пары.

## Няскоранасць...

21 сакавіка старому настаўніку споўніцца 92 гады... Здавалася, усё ў мінулым, рэшта — хіба што для Бога. Але не так скроены чалавек, на долю якога выпала столькі перажыць. Яму ўсё яшчэ мроіцца, што праўда і справядлівасць — ёсць; што простаму беларусу варта і далей змагацца за сваё крэўнае права — Чалавекам звацца, быць гаспадаром уласнага лёсу, не гнуць спіны ні перад кім. Таму і вядзе няроўны бой з чынавенствам, судамі і пракурорам, што хоча не столькі матэрыяльнай кампенсацыі за прычыненыя яму незаконныя дзеянні, колькі кампенсацыі маральнай. Падумаць толькі: сістэма не проста паламала, скалечыла ягоны асабісты лёс, але фізічна вынішчыла ўвесь род. Ды які?! Працавіты, даравіты, сумленны...

Цяперашняя сістэма мала чым адрозная ад той, што панавала ў XX стагоддзі — той жа таталітарызм, ігнараванне элементарных правоў грамадзян, страх шараговых грамадзян перад уладай, пераслед іншадумцаў...

У свой час Аляксандр Сафронавіч, спасылаючыся на арт. 460 УПК Рэспублікі Беларусь, Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь і міжнародныя прававыя акты прасіў спагнаць з фінансавага аддзела Карэліцкага райвыканкама на яго карысць матэрыяльнае кампенсаванне маральнай шкоды, прычыненай яму незаконнымі дзеяннямі органаў улады, следства, пракуратуры і суда ў памеры 70 мільёнаў рублёў. У судовым пасяджэнні істец павялічыў памер іскавых патрабаванняў да 80 мільёнаў — з улікам таго, што ён разам з сям’ёй быў рэпрэсаваны ў 1930-х гадах. Аднак іск так і не быў прызнаны, яму проста адмовілі. Ніякія касацыі, надзорныя скаргі ў вышэйстаячыя судовыя інстанцыі не скранулі справу. Між тым ёсць Рашэнне Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь ад 7 лістапада 1994 года № Р-6/94 “**О совершенствовании законодательства, регулирующего возмещение вреда, причиненного гражданам неправомерными действиями”.** Прызнаючы факт, што ў адпаведнасці з артыкулам 9 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах “Кожны, хто быў ахвярай незаконнага арышту ці ўтрымліваўся пад аховай, мае права на кампенсацыю, якая валодае іскавой сілай”, Канстытуцыйны суд прапанаваў Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь прыняць неабходныя меры да ўдасканалення заканадаўства, якое рэгулюе дадзенае пытанне, а менавіта: замацаваць у законе магчымасць поўнай кампенсацыі шкоды, нанесенай грамадзянам, уключаючы матэрыяльную кампенсацыю маральнай шкоды.

Дык дзе яна — тая поўная кампенсацыя?! Ці ўсё яшчэ не састарэла сталінская тэза: ёсць чалавек — ёсць праблема, няма чалавека — няма і праблемы?..

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
7 САКАВІКА 2013 г.

ГІСТОРЫЯ КАХАННЯ

# Кар'ера альбо асабістае жыццё?

*У артыкуле Людмілы Сяліцкай "Танго, которого не было", змешчаным у газеце "Народная Воля" ад 26.02.2013 г. №13 (3757), расказвалася аб нешчаслівым каханні маладога афіцэра-падводніка Анатолія Краснагорскага да нямецкай дзяўчыны Эдзіт. Рамантычныя адносіны паміж маладымі людзьмі абарвалі служачыя кампетэнтных органаў, якія сачылі за палітычнай надзейнасцю савецкіх грамадзян.*

55 гадоў пасля развітання Анатолія з Эдзіт, калі насталі іншыя часы, апантаны жаданнем абавязкова знайсці дзяўчыну сваёй мары, няўрымслівы рамантык Краснагорскі звярнуўся ў рэдакцыі вядучых газет, паслаў запыты на адрасы тэлеперадачы "Жди меня", радыёстанцыі "Нямецкая хваля", міжнароднай службы пошуку, таварыства нямецкага Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца.

З Германіі паведамілі, што ў адпаведнасці з заканадаўствам краіны толькі сам чалавек можа абнародаваць свае асабістыя даныя. Таму адклікнуцца павінна сама Эдзіт Альшэўскі.

Эдзіт не адклікнулася, бо, пэўна, былі падставы. У свой час, будучы афіцэрам, Анатолій наперакор сумленню праявіў маладушша, зняважыў пачуццё ўласнай годнасці, абразіў гонар афіцэра, калі не набіў морду двум малайцам з органаў за ўмяшанне ў яго асабістае жыццё. Эдзіт, ад'язджаючы з Масквы, запрасіла свайго рускага сябра ў госці, дала берлінскі адрас. Але самы выхаваны афіцэр у свеце і галоўны інтэрнацыяналіст на планеце Краснагорскі пабаяўся паведаміць даныя аб сабе, ні разу не напісаў і не пазваніў ёй. Калі паўстала пытанне: любоў да дзяўчыны сваёй мары, ці кар'ера марскога афіцэра, Анатолій выбраў апошняе.



Анатоль Краснагорскі і яго каханая Эдіт.

Жыццё героя артыкула паказвае, што гонар і каханне не заўсёды ўкладаюцца ў адзін мех з выгадай. Чалавек — жнец свайго лёсу. Які пасее ўчынак, такі пажне лёс.

55 гадоў таму малады афіцэр Краснагорскі зрабіў свой выбар. Цяпер выбар Эдзіт. Даравацъ альбо не...

Гэтая сумная гісторыя навучае: *"Не час праходзіць, часам мы праходзім міма самага важнага ў жыцці".*

**Іван ЯФІМЕНКА,**
**капітан запаса, 61 год.**

*Мінск.*

КРИК ДУШИ

## *Как жить пенсионеру?*

*Таких писем Вам, наверное, пишут тысячи, просто уже всех довели ценами до предела!*

Решил поменять в сапогах жены молнии. Две молнии стоят 60 тысяч рублей, и это без стоимости работы мастера!

Решил выслать сестре в Россию сушеных грибов, вес 130 граммов. Стоимость пересылки — 57 тысяч рублей.

За январь оплата за телефон составила 144 тысячи рублей. Боишься позвонить лишний раз!

С завода "Эвистор" в Америку уехал инженер. Он звонил из Америки родственникам, разговаривали 48 минут. На ремарку: мол, дорого, наверное, ответил: *"Я могу себе это позволить".*

А у меня в Сибири по отцу, как выяснилось в октябре 2012 года, есть сестра и трое братьев. Отец воевал в Беларуси и детям не признался, что у него есть еще один сын. И вот как белорусскому пенсионеру съездить на могилу отца? Билет стоит целое состояние: сначала до Красноярска, потом до Абакана, потом 100 километров на юг центра Сибири в районный центр Идринское... В западных странах пенсионеры ездят по всему миру. Читал где-то, что в Германии даже раньше выходят на пенсию, чтобы больше посмотреть мир, а у наших пенсионеров нет ни гроша за душой, даже на похороны!

Мой вклад в 7200 советских рублей государство украло.

Теперь с пенсии надо покупать лекарства. "Аденик" — 125 тысяч рублей на месяц, "Хондрозамин" — 95 тысяч рублей на месяц. А жене надо покупать свои таблетки...

Одним словом, мы просто нищие...

**Тимофей МАКАРЕНКО.**

*Витебск.*

НУ І НУ!

# Дзве аднолькавыя вуліцы Янішчыц у раёне — замнога, а тры вуліцы Чапаева — нармальна?

У гэтым годзе нашай славутай зямлячцы, таленавітай паэтэсе Яўгеніі Янішчыц споўнілася б 65 гадоў. Яна нарадзілася і пражыла свае дзіцячыя і школьныя гады на Піншчыне. Вёскі Велясніца і Рудка, Мерчыцы і Парэчча з'яўляліся важнымі біяграфічнымі вежамі ў жыцці паэтэсы.

У адной з іх яна нарадзілася, у другой прайшлі яе дзіцячыя і школьныя гады. У Мерчыцах вучылася ў васьмігадовай школе. У Парэччы атрымала атэстат сталасці. Усе гэтыя вёскі знаходзяцца на правым беразе прыгожай ракі Ясельды. Тут нарадзіліся яе першыя вершы, тут жылі лірычныя героі паэтэсы, адсюль яна адправілася ў вялікі свет.

У невялікай вёсачцы Рудка, куды неўзабаве пасля нараджэння Жэні сям'я пераехала жыць, стаіць хата, на якой ёсць мемарыяльная дошка. Хата знаходзіцца на вуліцы Савецкай. Па-добраму, тут, у хаце, павінен быць музей. Хата-музей Я.Янішчыц. Павінна. Але яе няма. Я выступіў з прапановай, каб хоць вуліцу Савецкую назваць імем Яўгеніі Янішчыц. Але яна разбілася аб жалезабетонную сцяну чыноўніцкай упартасці, раўнадушша і абыякавасці. На мой зварот-ініцыятыву з райвыканкама даслалі адказ-адпіску, які падпісаны намеснікам старшыні райвыканкама Іванам Багаткам. Вось ён: *"На Ваше обращение по вопросу переименования одной из улиц деревни Рудка на улицу Е.Янищиц сообщаем, что улица Е.Янищиц имеется в расположенном рядом населенном пункте Велесница, а в Велесницком клубе работает библиотека-музей им.Е.Янищиц".*

Вось так, аказваецца, дзве аднолькавыя вуліцы Янішчыц у раёне — гэта ўжо замнога. Прычым дзясяткі вуліц Леніна, "советских", "октябрьских" і г.д. у раёне — норма? Толькі ў адным Бобрыкаўскім сельскім савеце тры вуліцы Чапаева, дзве — Леніна, тры — "Октябрьских", дзве — Калініна. Пра гэта Іван Мікалаевіч добра ведае, але сарамліва прамаўчаў. Проста аб гэтым адкрыта сказаць не хапіла мужнасці...

Я спадзяваўся на патрыятызм старшыні Мерчыцкага сельсавета, бо тут знаходзіцца в.Рудка. Але ж дарэмна. Гэта значыць, што ўсе чыноўнікі думаюць і робяць аднолькава? Што ім Яўгенія Янішчыц! І нават калі яна і іх зямлячка. Мушу напомніць, старшыні прыходзяць і сыходзяць, а паэты застаюцца вечна.

Я веру, што прыйдзе час, калі вуліца Савецкая будзе насіць імя Я.Янішчыц. Толькі гэта ўжо зробяць іншыя старшыні. Зробяць людзі з іншымі і палітычнымі, і нацыянальнымі, і патрыятычнымі перакананнямі. Але ўсё роўна я спадзяюся, што з дапамогай "Народнай Волі" і шматлікіх чытачоў гэта адбудзецца хутка...

**Уладзімір ГУК.**

*Пінскі раён.*




ЕСТЬ ВОПРОС!

## *Почему Юрия Данькова оставили за решеткой, а российского уголовника выпустили?*

Прочла в последнем номере статью о продлении срока содержания под стражей для бизнесмена Юрия Данькова. И мне непонятно, почему его нельзя держать дома, под подпиской о невыезде? Ведь вина его еще не доказана, а держат его как преступника.

Зато уголовника и расиста, приехавшего из России и устроившего драку рядом с одним из наших медицинских центров, почему-то выпустили. Ну разве это нормально?

Знаю, что Юрий Даньков, будучи депутатом горсовета, учредил две общественные благотворительные организации ("Сострадание" и "Каштанку") и реально помогал не только людям, но и животным. Именно с его помощью в Минске был открыт пункт для животных "Фауна города": с целью передержки и пристраивания животных. Не раз с его помощью проводились благотворительные акции и концерты с целью гуманного отношения к животным. По его инициативе была создана диспетчерская служба для поиска животным новых хозяев. И своей харизмой и энергией он много чего мог добиться, если бы, как я думаю, не решил заняться политикой (в свое время он баллотировался в президенты). Может, после этого и стал неугоден?..

**Розалия РУБИНЧИК,**
**пенсионерка.**

*Минск.*

ДЗЯКУЙ!

## *Малайчына, Павел!*

На беларускім тэлебачанні канал "Беларусь-2" паказвае многа спартыўных перадач: розныя рэпартажы, інфармацыйныя блокі і гэтак далей. Але па пальцах адной рукі можна пералічыць перадачы, якія вяліся б на нашай роднай беларускай мове.

Першапраходцам тут быў вядомы нам тэлекаментатар **Уладзімір Навіцкі,** але ён апошнім часам нешта цвёрда падсеў на вялікі і магутны язык усходніх суседзяў. Засталося толькі яго любімае слова "абаронца".

І **Святлана Парамыгіна** наўрад ці будзе весці рэпартажы з біятлонных трас па-беларуску.

Напрыканцы лютага глядзеў рэпартаж па футболе з туманнага Альбіёна, які вёў **Павел Баранаў**. Вёў нетаропка, грунтоўна, з усялякімі там футбольнымі выкладкамі і галоўнае — на роднай мове. Раней Павел выходзіў у эфір то на рускай, то на беларускай мовах. Хопіць вагацца, Павел! У цябе гэта хараша атрымліваецца і ты даў добры прыклад усім каментатарам. А ад сябе скажу: спорт на беларускай мове — гэта цудоўна!

**Аляксей Іванавіч**
**БУЦЬКО.**

*Гродна.*

РЕАКЦИЯ

# Минздрав заявляет, что цены на лекарства в Беларуси формируются без нарушений

***Если импортные лекарства не по карману белорусам, их, по мнению чиновников от медицины, можно заменить на отечественные аналоги.***



В январе "Народная Воля" сравнила цены на импортные лекарства в аптеках Киева и Минска. Сравнивали мы цены на 15 препаратов разных групп, наиболее популярных у населения. Выяснилось, что буквально по всем позициям цены в Беларуси выше. Причем на некоторые препараты, например, антигипертензивный "Энам" или мультивитаминный комплекс "Центрум" даже в два и более раза.

Читатель "Народной Воли" Андрей Минич эту публикацию переслал в Министерство здравоохранения. Судя по всему, чтобы узнать и разобраться, как же формируются цены на импортные лекарства в Беларуси, если точно такие же препараты в соседней стране стоят дешевле.

*"Формирование цен на лекарственные средства зарубежного производства в республике осуществляется в соответствии с требованиями Указа Президента Республики Беларусь от 11.08.2005 г. №366 "О формировании цен на лекарственные средства, изделия медицинского назначения и медицинскую технику,* — ответ заместителя министра здравоохранения В.Е Шевчука Андрей Минич переслал в редакцию. — *Цены на лекарственные средства напрямую зависят от контрактной цены поставщика (производителя) и официального курса валют Национального банка Республики Беларусь на дату помещения товара под таможенный режим свободного обращения".*

Кроме того, в официальном ответе указывалось, что Министерством здравоохранения постоянно проводится мониторинг розничных цен по наиболее востребованным наименованиям лекарств в аптеках всех форм собственности. Причем проверяющие отслеживают, как меняются цены в аптеках и на белорусские, и на импортные препараты. *"В ходе проверок за период 2010—2013 гг. не было выявлено случаев нарушения юридическими лицами действующего законодательства по ценообразованию",* — сообщалось в письме Минздрава. При этом, к слову, замминистра согласился: на ряд препаратов цены в белорусских аптеках действительно выше, чем в украинских.

Стоит отметить, что упомянутый в письме Указ президента №366 позволяет аптекам устанавливать 30%-ную торговую надбавку на импортные лекарства, отпускная цена которых завода-изготовителя составляет до 5 долларов США, 25% — на лекарства с "заводской ценой" 5 — 10 долларов, 21% — на лекарства с отпускной ценой 10—15 долларов. И это без учета оптовых надбавок, которые составляют соответственно 11, 10 и 9 процентов. То есть по сути получается, что максимальные надбавки в нашей стране установлены на самые востребованные импортные препараты. Потому что и но-шпа, и супрастин, и кардиомагнил, и линекс и ряд других популярных у населения лекарственных средств находятся в этой ценовой группе.

Правда, в своем ответе нашему читателю В.Шевчук отмечает, что у белорусов есть выбор: *"в государственной аптечной сети РУП "Белфармация" в реализации постоянно имеются более дешевые лекарственные средства отечественного производства".* То есть надо понимать, что читателю дается простой совет: дорого покупать импортное, приобретайте белорусский аналог.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ИЗ ПИСЬМА

## *Жаль пшеницу. И коров. А больше всех — председателя*

На днях ОНТ показал материал о том, что в Олехновичах сгнило зерно. Руины зернохранилища, полуразваленная ферма, коровы по брюхо в навозе...

На настырный вопрос корреспондента "А почему же ферма не строится?" бригадир, не оборачиваясь, говорит: "Так я еще зарплату за декабрь не получил!".

Завтра, я уверен, там будут и люди Якобсона, и люди Конюка и прочие. А то и Вакульчик с пулеметом...

Конечно, жаль пшеницу. Жаль коров. Но мне будет обидно, если председатель и бригадир окажутся в тюрьме. Только ли они виноваты? Ведь еще когда-то прославленный Старовойтов сказал, что при колхозной системе нет той силы, которая заставила бы человека хорошо работать.

**Леонид НЕМЦОВ.**

РЭЗАНАНС

# Не ведаю, што будзе з вёскай гадоў праз дваццаць...

Артыкул Міколы Ермакова "Адрачэнне ад спрадвечных запаветаў. Страшэнную згубу яно нясе Беларусі", надрукаваны 5 лютага гэтага года на старонках маёй любімай газеты, вельмі ўзрушыў. Прачытала яго на адным дыханні.

Аўтар — мой зямляк з Гомельшчыны. Я таксама вырасла ў вёсцы, мае дзіцячыя гады прайшлі ў цяжкі пасляваенны час.

Як і аўтар, з болем у сэрцы бачу: вымірае вёска, а з ёй паміраюць і лепшыя духоўныя якасці, якія былі ўласцівы ў першую чаргу сялянам. Мая родная вёска Асобіна была даволі вялікай, у кожнай сям'і было многа дзяцей, была свая гаспадарка. На калгаснай ферме працавалі даяркамі нашы матулі, а мы, падлеткі, дапамагалі ім. На прысядзібных участках, акрамя гародніны і бульбы, пасля адмены падатку на пладовыя дрэвы з'явіліся яблыні, грушы, вішні.

Жылі бедна, але дружна. Ды з канца 1950-х пачаўся масавы адток моладзі з вёскі ў Гомель. У краіне быў узяты курс на "будаўніцтва камунізму". Памятаю, мяне дужа здзіўляў лозунг: "От каждого — по способностям, каждому — по потребностям". Ці ж можа такое быць?

Тады быў выдадзены загад: здаваць буйную рагатую жывёлу на бойню. Такім чынам "выконваўся план" па нарыхтоўцы мяса. А наконт малака было сказана, што насельніцтва сельскай мясцовасці будзе ім забяспечваць дзяржава... Так планавалася партыяй і ўрадам, а чым гэта скончылася, усім вядома. Адкуль жа ўзяцца малаку ў дзяржаве, калі кароў — пад нож?

...Вось ужо некалькі гадоў жыву ў аграгарадку. Раней тут была МТС і невялікі пасёлак. Помню, ён ажыў, калі ў сярэдзіне 1980-х паблізу было распачата будаўніцтва бройлернай птушкафабрыкі. Пачалося і будаўніцтва жылля, культурных установ і наогул добраўпарадкаванне мясцовасці. Моладзь і людзі сталага ўзросту пайшлі працаваць на фабрыку, многія атрымалі жыллё ў пасёлку, які ў 2005 годзе займеў статус аграгарадка. У свае вёскі ніхто больш не вяртаўся. Зараз у маім Асобіне дажываюць свой век пераважна пенсіянеры. Усяго некалькі сямей працаздольнага ўзросту апрацоўваюць прысядзібныя ўчасткі і трымаюць падсобную гаспадарку. На ўсю вёску зараз толькі тры каровы, што пасвяцца на прывязі, і некалькі коз. Сумна ісці па вуліцы, гледзячы на забітыя вокны пакінутых хат. Праўда, летам у некаторых з'яўляюцца дзеці былых вяскоўцаў. Прыязджаюць на свежае паветра, і тое добра.

Асабліва балюча, што страчвае сваю ролю ў грамадстве сям'я. Зараз маладзёны не хочуць браць на сябе лішні клопат. Вось і ў нашым аграгарадку Камунар я ведаю некалькі хлопцаў, якім ужо за 30, але яны не збіраюцца ствараць сям'ю. Некаторыя зусім не працуюць, усё яшчэ знаходзяцца пад апекай бацькоў. Ім не сорамна... Бальшыня не мае ні акрэсленай мэты ў жыцці, ні жадання што-небудзь змяніць, співаецца.

Сярэдняя школа, якую я заканчвала, а потым працавала, з кожным годам выпускае ўсё менш выхаванцаў. І калі гадоў 20 таму было па два выпускныя класы, то ў гэтым годзе — усяго толькі 11 вучняў. Міжволі думаеш: што чакае нас праз 20—30 гадоў? Упэўнена, гэтае пытанне хвалюе многіх суайчыннікаў. Спадзяюся, размова на гэтую тэму на старонках газеты працягнецца.

А з свайго боку хачу выказаць шчырую ўдзячнасць аўтару артыкула за пранікнёныя, шчырыя радкі аб беларускай вёсцы і яе насельніках. Усяго добрага рэдакцыі, бывайце здаровыя!

**З павагай і ўдзячнасцю —**

**Тамара Міхайлаўна**
**ЯЗЕРСКАЯ.**

*п.Камунар*
*Буда-Кашалёўскага раёна.*

## *На уровень зарплат надо равняться*

Неужели чиновники из "Минскэнерго" не знают, что в соседних странах жизненный уровень выше, чем у нас, выше зарплаты и пенсии? И цены у соседей не так растут, как в Беларуси. Из стран СНГ и Балтии Беларусь какой год подряд занимает 1-е место по росту цен: 2011 г. — 108,7%, 2012 г. — 22%, а в странах СНГ в среднем — 6—7%. В Украине и в Грузии цены вообще снизились на 0,2% и 1,4% соответственно. В Украине цены на продукты питания ниже, чем в Беларуси, пенсионеры ездят бесплатно городским транспортом и электричками. А мы только хвалимся успехами. Но у пенсионеров все льготы отобрали! И цены растут каждую неделю во всех направлениях. А еще поборы нескончаемые — введение лимитов на электроэнергию, повышение тарифов на свет и газ, проезд в поездах и транспорте, цен на лекарства и многое другое.

Поэтому чиновникам я хочу сказать: тарифы на электроэнергию (и не только на нее) для населения Беларуси должны быть ниже, чем в соседних странах. Вы лучше равняйтесь на то, какими зарплатами соседи обеспечили свой народ.

**М.А.ГОЛУБЕВ.**

*Борисов.*

## *Не такой уж он и чистый...*

То и дело слышишь из всех рупоров: "Наш чистый-чистый-чистый Минск!.." Конечно, улицы и площади у нас, слава Богу, неплохо подметаются, как и положено в любом уважающем себя городе, поселке, деревне. Но давайте взглянем попристальней вокруг.

Глаз то и дело выхватывает: под окнами многоэтажек валяется выброшенный прямо из окон мусор. В зеленых зонах, у магазинов — горы отходов "благодаря" самим же горожанам. Ну а вход на Комаровский рынок попросту заблокирован огромной стаей голубей. Они даже в крытое помещение залетают и, извините, гадят там. Повсюду, куда ни ткнись в городе, их шумные тучи с очевидными последствиями "бурной деятельности". А сердобольные бабушки с внучатами с улыбкой на лице их подкармливают и подкармливают... Но я совсем не умиляюсь.

Не знаю, волнует ли такая мелочь городские центры гигиены и эпидемиологии, орнитологов, местные власти, наконец? Похоже, что нет, ибо голубиная популяция в столице все увеличивается с каждым годом, раздражая людей и вытесняя маленьких птиц.

Между тем в мире (Париж, Лондон, Рим, Мюнхен и т.д.) есть неплохой опыт по ограничению численности голубей. Почему бы и нам им не воспользоваться? Тогда и "чистый" Минск станет и впрямь чище.

**Т.МАРКЕВИЧ,**
**педагог.**

